# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 1 (188)
студзень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:

### У Мінску перапахаваюць парэшткі Магдалены Радзівіл

17 лютага ў мінскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха на Залатой Горцы) адбудзецца перазахаванне парэштак Магдалены Радзівіл.

**Працяг на старонцы 2.**

### Пра беларускую Італію і не толькі – новы выпуск альманаху “Запісы БІНіМ”

Прадмову да альманаху гэтым разам напісаў Надзвычайны і паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфана Б’янкі.

**Працяг на старонцы 4.**

### У Польшчы скарацілі фінансаванне праектаў беларускай меншасці

Юбілей літаб’яднання “Белавежа”, святкаванне 100-годдзя БНР беларускай меншасцю ў Польшчы пад пагрозай – няма сродкаў.

**Працяг на старонцы 5.**

### Няпростыя словы

Памяці Міхала Анемпадыстава

**Працяг на старонцы 2.**



Помнік Францыску Скарыну перад Балтыйскім федэральным універсітэтам імя Імануіла Канта ў Калінінградзе.

# У КАЛІНІНГРАДЗЕ З’ЯВІЦЦА ВУЛІЦА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Падчас Сёмага з’езда беларусаў свету, які праводзіла Згуртаванне “Бацькаўшчына” ў Мінску ў ліпені 2017 года, з ініцыятывы сяброў Калінінградскага Таварыства беларускай культуры і яго старшыні Ігара Шаховіча быў прыняты зварот да мэра Калінінграда Аляксандра Ярашука аб наданні імя Францыска Скарыны адной з вуліц горада ў гонар пяцісотгадовага юбілею ўсходнеславянскага друку.

Справа ў тым, што нягледзячы на існаванне цэлага шэрагу знакамітых беларусаў, лёс якіх быў звязаны з Каралявецам–Кёнігсбергам–Калінінградам, факт беларускай прысутнасці ў назвах вуліц і населеных пунктаў гэтага рэгіёна ніяк не адзначаны. Ідэя распачаць у Калінінградзе ўшанаванне персонаў беларускага паходжання з Францыска Скарыны выглядае слушнай – у 1530 годзе на запрашэнне герцага Прусіі Альбрэхта Брандэнбурга Скарына працаваў у Кёнігсбергу.

На пасяджэнні тапанімічнай камісіі ў Калінінградзе, якое адбылося ў снежні 2017 года, зварот дэлегатаў Сёмага з’езда беларусаў свету разглядаўся. І Згуртаванне “Бацькаўшчына” атрымала адказ, у якім паведамляецца, што пасля абмеркавання чальцы камісіі прыйшлі да высновы, што з мэтай умацавання культурных і эканамічных сувязяў Беларусі і Калінінградскай вобласці варта надаць у 2018 годзе імя Францыска Скарыны вуліцы ў жылым квартале, які зараз будуецца (раён вуліц Пархоменка і Левітана).

Выснова тапанімічнай камісіі накіраваная да разгляду і зацвярджэння ў гарадскі Савет дэпутатаў Калінінграда. Спадзяемся, што гарсавет ухваліць такі падыход, і ў хуткім часе вуліца імя Францыска Скарыны з’явіцца ў Калінінградзе.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

**навіны**

# Інстытут нацыянальнай памяці Польшчы: вуліца і ліцэй імя Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім застануцца

Старшыня Інстытута нацыянальнай памяці Польшчы Яраслаў Шарэк адказаў на пытанне наконт лёсу анансаванага перайменавання ў Бельску-Падляскім вуліцы і ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча.

У Польшчы ў рамках дэкамунізацыі, якую каардынуе Інстытут нацыянальнай памяці Польшчы, узнікла ініцыятыва замяніць імя Браніслава Тарашкевіча, якое носяць вуліца і ліцэй у Бельску (Падляскае ваяводства, дзе прадстаўленая беларуская нацыянальная меншасць). Прычына ў тым, што Тарашкевіч у даваеннай Польшчы быў камуністам.

У адказ беларускія арганізацыі Польшчы заявілі, што Тарашкевіча ні ў якім разе нельга прыроўніваць да сімвалаў камунізму, бо ён сам стаў ахвярай камуністычных уладаў СССР, што ён мае заслугі перад беларускай культурай, літаратурай і гісторыяй. Самакіраванне горада Бельска-Падляскага таксама выказалася ў падтрымку імя Браніслава Тарашкевіча.

Звароты да Інстытута нацыянальнай памяці з гарадскіх уладаў накіроўвала і ЗБС "Бацькаўшчына".

Да 2 снежня мінулага года ваявода падляскі Богдан Пашкоўскі павінен быў падпісаць рашэнне пра лёс вуліцы Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім. Такі крайні тэрмін прадугледжвае польскі Закон аб дэкамунізацыі.




Але, як паведаміў "Свабодзе" раднік ваяводы Раман Чэпэ, дакумент не быў падпісаны. Ваявода вырашыў прыпыніць працэдуру, бо гісторыкі з Інстытута нацыянальнай памяці не даслалі сваёй характарыстыкі асобы Тарашкевіча.

Інстытут нацыянальнай памяці абвясціў, што рашэнне павінна быць прынятае да канца студзеня.

29 студзеня дэлегацыя Інстытута нацыянальнай памяці на чале з яго старшынёй Яраславам Шарэкам прыбыла ў Мінск, і карэспандэнт "Свабоды" спытаў спадара Шарэка пра сітуацыю з перайменаваннем вуліцы і ліцэя Тарашкевіча ў Бельску.

"На гэты момант вуліца Браніслава Тарашкевіча, як і яго патранат над ліцэем, застаюцца", – адказаў спадар Шарэк.

На ўдакладняльнае пытанне, ці канчатковае гэтае рашэнне, спадар Шарэк адказаў: "На гэты момант – так".

Дэлегацыя Інстытута Нацыянальнай памяці Польшчы 29 студзеня ўсклала вянкі ў Курапатах, дзе пахаваныя беларускія і польскія ахвяры камунізму, правяла сустрэчы з гісторыкамі з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і БДУ, выступіла перад грамадскасцю Мінска з лекцыяй да 100-годдзя адраджэння незалежнасці Польшчы.

30 студзеня дэлегацыя накіравалася ў Бабруйск, дзе правяла перамовы з уладамі аб усталяванні помніка салдатам Польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. У 1918 годзе гэты корпус выступіў супраць савецкай улады.

**Паводле Валера Каліноўскага, "Радыё Свабода"**

# У Мінску перапахаваюць парэшткі Магдалены Радзівіл

17 лютага ў мінскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха на Залатой Горцы) адбудзецца перазахаванне парэштак Магдалены Радзівіл.

Парэшткі былі прывезеныя ў Беларусь віцэ-прэзідэнтам Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі Аляксандрам Сапегам падчас Сёмага з'езда беларусаў свету. Дэлегаты З'езда накіравалі зварот да мітрапаліта Кандрусевіча і ўладаў сталіцы з просьбай аб перазахаванні парэшткаў княгіні Магдалены Раздзівіл у Мінску.

Мецэнатка і культурны дзеяч Марыя Магдалена Радзівіл у свой час аказвала фінансавую падтрымку выдавецтву «Загляне сонца і ў наша аконца», газеце «Беларус», шпіталям, сельскім крамам і гэтак далей. У 1917 годзе яна ахвяравала дыяментавае кальє на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме – грошы былі перададзеныя айцам марыянам у Друі.



Як расказаў пробашч парафіі кс. Юрый Санько, урна з парэшткамі Магдалены Радзівіл будзе выстаўлена для развітання ў касцёле вечарам 16 лютага. Паводле яго слоў, парэшткі будуць перазахаваныя ў левай частцы святыні. На тым месцы будзе ўсталявана памятная шыльда і барэльеф у гонар славутай мецэнаткі.

На ўрачыстасць прыбудуць Мацей і Міхал Радзівілы, а таксама праўнучка Магдалены Радзівіл – Марылена Замойская.

**Паводле "Нашай Нівы"**



# Няпростыя словы: памяці Міхала Анемпадыстава

Найчасцей пра Міхала Анемпадыстава згадваюць як пра паэта, аўтара словаў выдатных песень, нарэдка як пра мастака і дызайнера. І далёка не ўсе ведаюць, што Міхал Анемпадыстаў ад самага пачатку быў сярод стваральнікаў і натхняльнікаў кампаніі "Будзьма беларусамі!".

Менавіта з ідэі Міхала пачаліся многія праекты сайта (напрыклад, "Магічная мапа" і "Будзьма з беларускімі святамі!"), менавіта яму належала аўтарства шматлікіх графічных работ (напрыклад, вядомы плакат "Тое, што нас аб'ядноўвае і робіць унікальнымі!"), святочных паштовак і музычных дыскаў, і нават першай версіі лагатыпа кампаніі. Мы любім, памятаем і вельмі ўдзячныя Міхалу за неацэнную дапамогу, прафесійныя парады, удзел і прыхільнасць. За тое, што ўвесь гэты час быў нашым вялікім сябрам! За цяпло і радасць сустрэч!

А яшчэ, мы хочам нагадаць пра, можа быць, менш вядомы, але не менш важны аспект унёску ў культуру Беларусі – яго выкшталцоную эсэістыку. І распачнем з нагадкі пра эсэ Міхала Анемпадыстава пад назвай "Гонар і годнасць", хоць сумная нагода найперш звяртае ўвагу на тэксты "Могілкі" і "Чарка":

"Годнасць кожнага з нас – гэта сума таго, што мы ўсе пра яе, годнасць, думаем. Гонар прымушае і дапамагае нам вырашаць, што пакінуць па-за ўвагай, а што лічыць абразай."

Мысленне – як лад існавання і спосаб стварэння публіцыстыкі. Стыль – як адметная рыса тэкстаў і самога аўтара. Няспешны рытм – як магчымасць не пазбавіцца неабходнай уважлівасці, фокусу тэкстаў і, уласна, сам метад апавядання.

Эсэістыка Міхала няспешна асэнсоўвае беларускае жыццё (часам паасобку – "беларускае" і "жыццё"). Нетаропкае, медытатыўнае разважанне пра сам код беларускасці, сувязь з'яваў і пакаленняў, мінулага і будучыні, рэальнага і метафізічнага склала серыю з трох дзясяткаў прыгожых удумлівых тэкстаў, аб'яднаных загалоўкам "Простыя рэчы", хоць аўтар і сам адзначаў, што далёка не ўсе яны такія "простыя". Потым іх працягнула серыя артыкулаў "Стыль як фактар ідэнтычнасці", потым з'явілася кніга "Колер Беларусі", якую суправаджалі выставы ў гарадах краіны.

"Могілкі – прастора памяці. Смерць прыходзіць у іншыя месцы, выпадковыя і спецыяльна прызначаныя, бесцырымонна і амаль заўсёды не ў час. На могілкі смерць сыходзіць. Хаваюць менавіта яе, смерць. З нябожчыкам – развітваюцца. Праводзяць на гэтым свеце, каб раней ці пазней сустрэцца зноў, ужо назаўсёды, на тым, на іншым. Тут, з намі, застаецца памяць."

**Кампанія "Будзьма беларусамі!"**

in memoriam

# ПАМЁР САМЫ СТАРЫ БЕЛАРУС СЬВЕТУ, АСЬВЕТНІК І НАВУКОВЕЦ БАРЫС КІТ

(Захоўваецца правапіс першакрыніцы.)

1 лютага ў Франкфурце-на-Майне на 108 годзе жыцьця памёр вядомы беларускі дзяяч замежжа, грамадзянін ЗША Барыс Кіт.



Пра смерць Барыса Кіта Свабодзе паведаміла ягоная жонка Тамара Казевіч.

"Яму было вельмі кепска апошнія дні, былі моцныя болі, ён ужо больш не хацеў жыць", – кажа Тамара Казевіч.

Барыса Кіта пахаваюць на праваслаўных могілках у нямецкім горадзе Вісбадэне, дзе каля 30 гадоў таму ён выкупіў участак. Дата пахаваньня пакуль невядомая, выконваюцца фармальнасьці.

"Беларусам XXI стагодзьдзя я жадаю не забыць сваёй беларускасьці і рабіць дзеля яе тое, што магчыма, – сказаў Барыс Кіт у апошнім інтэрвію Свабодзе ў сьнежні 2017 году. – Вельмі шмат беларусаў здрадзілі Беларусі, кінулі яе, а я ня здрадзіў, я працаваў на беларускую справу. Я рабіў усё правільна, Бог гэта бачыў і зрабіў так, што я не памёр дасюль".

Барыс Кіт – беларускі асьветнік, амэрыканскі навуковец, спэцыяліст у галінах астранаўтыкі, матэматыкі, фізыкі, хіміі, ганаровы прафэсар Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту ў ЗША, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі.

Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка 1910 году ў Санкт-Пецярбургу ў сям'і беларуса. Бачыў лютаўскую рэвалюцыю 1917 году. Пасьля кастрычніцкага перавароту ягоны бацька, ратуючыся, перавёз сям'ю ў вёску Агароднікі Карэліцкага раёну. Барыс Кіт скончыў Віленскі ўнівэрсытэт імя Стэфана Баторыя, быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, пазьней Навагрудзкай гімназіі, выкладаў там матэматыку.

Перад вайной Кіта прызначылі акруговым інспэктарам Баранавіцкай школьнай акругі, пад ягоным кіраўніцтвам адчыніліся дзясяткі беларускіх школ у Баранавіцкім, Навагрудзкім, Слонімскім, Валожынскім, Ваўкавыскім раёнах.

За беларускую дзейнасьць перасьледаваўся ўладамі Польшчы, СССР, нацысцкай Нямеччыны.

## 30 дзён у камэры сьмяротнікаў

З пачаткам нямецкай акупацыі два гады пражыў у сваякоў у вёсцы Лебедзева Маладэчанскага раёну.

Працуючы дырэктарам беларускай гімназіі ў Паставах, Барыс Кіт разам са сваімі вучнямі пераажыў жудасную трагедыю ліквідацыі Пастаўскага гета. Ён адмовіўся на загад нямецкага афіцэра накіраваць сваіх вучняў ачышчаць горад ад трупаў, і гэта стала для акупацыйнага рэжыму апошняй кропляй. Барыса Кіта арыштоўваюць і зьмяшчаюць у камэру сьмяротнікаў Глыбоцкай турмы, абвінавачваюць у шпіянажы, сувязях з партызанамі, парушэньні нямецкіх законаў. У гэтай камэры, насельнікаў якой кожную ноч выводзілі на расстрэл, Барыс Кіт прабыў 30 дзён.

Але вучні не пакінулі настаўніка, распачаўшы кампанію ў яго абарону. Барыс Кіт быў вызвалены дзякуючы заступніцтву вучня Кастуся Касяка, які быў дарадцам па беларускіх справах пры гебітскамісарыяце. Самога Касяка потым расстраляла савецкая ўлада.

## Зрабіў унёсак ва ўсясьветную астранаўтыку

У 1948 годзе Барыс Кіт эміграваў у ЗША, дзе заснаваў у горадзе Саўт-Рывэры беларускую калёнію, дапамагаючы перабрацца ў ЗША шматлікім беларускім уцекачам. Але неўзабаве пераехаў у Каліфорнію, дзе распачаў навуковую дзейнасьць у галіне астранаўтыкі.

Працаваў у розных кампаніях, удзельнічаў у амэрыканскіх праектах падрыхтоўкі да палётаў у космас, дасьледаваў касьмічныя праграмы СССР. Прафэсар, доктар філязофіі ў галіне матэматыкі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, шмат якіх іншых міжнародных і нацыянальных акадэмій і аб'яднаньняў.

Ён суаўтар падручніка па ракетным паліве Rocket Propellant Handbook (1960), якім дасюль карыстаюцца ў амэрыканскіх унівэрсытэтах.

Выгадаваў двух сыноў – Уладзімера, які працаваў у кіраўніцтве амэрыканскага касьмічнага агенцтва НАСА (8 гадоў таму памёр), і Віктара, хірурга ў Балтыморы.

## Вяртаньне на радзіму

З развалам СССР і адраджэньнем незалежнай Беларусі імя Барыса Кіта вярнулася ў беларускую гісторыю.

Пра яго распавядаецца ў кнігах Лідзіі Савік "Вяртаньне" і "Космас беларуса" і Галіны Войцік "Барыс Кіт". У беларускіх часопісах друкавалася кніга Васіля Быкава "Аповеды Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 году ў Франкфурце-на-Майне". У Менску таксама выйшла кніга "Грамадзянін сьвету" з успамінамі пра Барыса Кіта, напісаная ягонымі вучнямі і сябрамі.

Апошні час Барыс Кіт жыў у Франкфурце-на-Майне ў прытулку для састарэлых. Пасьля пералому шыйкі сьцягна ня мог хадзіць, рухаўся на інвалідным вазку.

Паводле інфармацыі Белстату, сярод мужчын на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь не было людзей, старэйшых за Барыса Кіта.

"Радыё Свабода"

Управа ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе з нагоды смерці ганаровага сябра Згуртавання спадара Барыса Кіта і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

навіны "Будзьма беларусамі"

## Развітанне з годам Скарыны ў БДАМЛІМ

Развітанне супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва з 2017 годам прайшло ў атмасферы творчай сустрэчы. 29 снежня да іх завітаў гурт "Балцкі Субстрат" з літаратурна-музычным каляндным канцэртам. Максім Іўкін і Ганна Амозава распавядалі пра жыццёвы шлях Францішака Скарыны, выконвалі песні на словы беларускіх паэтаў Казіміра Сваяка, Сяргея Дарожнага, Юлія Таўбіна, Уладзіміра Караткевіча, Віктара Сямашкі, Веры Бурлак, а таксама народныя.

Была праведзеная літаратурная віктарына на веданне жыцця і дзейнасці славутага беларуса з розыгрышам падарункаў ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".

## "Торвальд" з намі

Два дзясяткі зацікаўленых слухачоў і больш за дзве гадзіны песеннага падарожжа Андрэя Мельнікава і Міхаіла Рубіна па гісторыі беларускай літаратуры. Менавіта так выглядала імпрэза "Рытмічна па белліту" ў арт-пабе "Торвальд" у самым сэрцы Віцебска 18 студзеня. Апроч аўтарскіх, у залі гучалі спевы на вершы Наталлі Арсенневай, Кандрата Атраховіча, Рыгора Барадуліна, Зьмітрака Бядулі, Віктара Жыбуля, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Караткевіча, Янкі Купалы, Валярыны Куставай, Алеся Плоткі, Юльюша Славацкага, Леры Сом, Анатоля Сыса, Міхася Чарота, Марка Шагала… Калі Вы жадаеце, каб праграма "Рытмічна па белліту" прайшла ў Вашай прасторы, пішыце на скрыню stasyaky88@gmail.com ці на razam@budzma.org.

Болей чытайце на budzma.by

кніга

# ПРА БЕЛАРУСКУЮ ІТАЛІЮ І НЕ ТОЛЬКІ – НОВЫ ВЫПУСК АЛЬМАНАХУ "ЗАПІСЫ БІНІМ"

У Мінску пабачыў свет новы, 39-ты, выпуск альманаху "Запісы БІНіМ". Тэма гэтага нумару "Італійская мазаіка" ўключае ў сябе розныя праявы беларускай прысутнасці на Апенінах. Нездарма і прадмову да альманаху гэтым разам напісаў Надзвычайны і паўнамоцны пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфана Б'янкі.

Вялікую частку "італьянскага" складніка новых "Запісаў" прадстаўляюць матэрыялы з раздзелу "Да творчай спадчыны Пётры Татарыновіча".

Тут можна ўбачыць і ліставанне гэтага каталіцкага святара, заснавальніка беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё, выдаўца і найбольш вядомага дзеяча беларускай эміграцыі ў Італіі пасля Другой сусветнай вайны, і кавалкі ягоных успамінаў-спогадаў, і ўзор перакладніцкай працы. Тэксты Пётры Татарыновіча, як і ягоныя выданні, сярод іншага вызначаліся вельмі асабліваю моваю. І асобны матэрыял раздзела адлюстроўвае тую дыскусію, якая разгарнулася ў эміграцыйнай перыёдыцы адносна мовы твораў рымскага беларуса.

Італьянскай тэматыцы прысвечаныя і лісты ў адпаведным раздзеле "Запісаў". Тут карэспандэнцыя з Рыма і опернага спевака Пётры Конюха, і супрацоўніка беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё Янкі Мойсіка, а таксама лісты біскупа Часлава Сіповіча з нагоды абрання Рымскага папы Яна Паўла ІІ.

У раздзеле "Выданне" прадстаўлены невялікі нарыс і частка бібліяграфіі выдаванага Пётрам Татарыновічам у Рыме перыёдыка "Зьніч". Поўная ж версія бібліяграфія, складзеная Алесем Аўдзеюком, змешчана на адмысловым дыску, які дадаецца да альманаху. Варта адзначыць, што гэта не першая бібліяграфія эміграцыйнага перыёдыка, змешчаная ў "Запісах". Раней на старонках выдання і на адмысловых дысках у дадатку былі надрукаваныя бібліяграфіі часопіса "Божым Шляхам", перыёдыкаў мюнхенскага Інстытута вывучэння СССР, персанальныя бібліяграфіі а. Аляксандра Надсана, Янкі Запрудніка, Вітаўта і Зоры Кіпеляў, Паўла Урбана і інш.

Працягам тэмы беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё стала запісаная ў 2015 г. гутарка з яе супрацоўнікамі Аляксандрам Панчанкам і Янкам Мойсікам. Таксама ў альманаху можна знайсці тэкст пра пабудаваную святаром з Беларусі на пачатку ХХ ст. царкву ў Фларэнцыі, "італьянскія" вершы Аксаны Данільчык, аповед пра беларускіх вайскоўцаў у Італіі падчас і пасля Другой сусветнай вайны і інш.

У асобным раздзеле "Вакол кнігі" змешчаны тэксты Аксаны Данільчык і расійскага даследчыка ды каталіцкага святара з цэнтра "Russia Christiana" ў Італіі Уладзіміра Калупаева, прысвечаныя ўнікальнаму італьянскаму выданню – працы Джузэпэ Месіны "Беларуская літаратура", што пабачыла свет яшчэ ў 1952 г.

Па-за італьянскай тэматыкай у альманаху змешчаныя тэксты да будучай кнігі выбраных твораў дзеяча БНР Макара Краўцова, дзеля ўшанавання такім чынам і 100-годдзя абвяшчэння беларускай незалежнасці. Таксама ў выпуску – успаміны колішняга кіраўніка Саюза кампазітараў БССР, а пазней эмігранта ў Канадзе Дзмітрыя Камінскага, падрыхтаваныя Зінай Гімпелевіч, тэксты Лявона Юрэвіча пра асобныя моманты дачыненняў беларусаў з рускімі, літоўцамі і палякамі на эміграцыі, а таксама нарысы пра аўтараў і літаратурныя творы, аб'яднаныя пад назвай "Varia", ліставанне Юркі Віцьбіча.

Традыцыйна ў "Запісах БІНіМ" публікуюцца тэксты дакладаў удзельнікаў секцыі па гісторыі беларускага замежжа, арганізаванай на Міжнародным кангрэсе даследчыкаў Беларусі. Ва ўгодкавай рубрыцы змешчаныя віншаванні з 90-годдзем Вітаўту Кіпелю і Янку Запрудніку, заўвагі дырэктара БІНіМа да колішняга выдання Купалаўскай энцыклапедыі, лісты Станіслава Станкевіча ў справе выдання газеты "Беларус".

Надзвычай багатая на кніжныя рэцэнзіі сёлетняя рубрыка "Кніжная паліца", дзе сярод аўтараў можна знайсці такіх кнігазнаўцаў як Ларыса Доўнар, Валянціна Лебедзева, Ганна Севярынец, Аляксандр Фядута і інш. Разнастайнай атрымалася і "Хроніка", што распавядае пра выставы, прэзентацыі і іншыя падзеі, звязаныя з захаваннем і папулярызацыяй спадчыны беларускай эміграцыі.

Пры канцы альманаху, у адмысловым раздзеле "Кніга ў "Запісах", упершыню публікуецца праца амерыканскага беларуса Алеся Вініцкага "Матар'ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу", заснаваная на ўнікальных скаўцкіх дакументах і ўспамінах.

Пабачыць новы выпуск альманаху "Запісы БІНіМ" можна ў "Акадэмкнізе".

***

Беларускі інстытут навукі і мастацтва – найстарэйшая дзейная беларуская навукова-асветная інстытуцыя на Захадзе. БІНіМ быў заснаваны ў Нью-Ёрку ў 1951 г. для аб'яднання беларускай інтэлектуальнай і творчай эліты на эміграцыі. Альманах "Запісы" выдаецца з 1952 г. Спачатку ён выходзіў у Нью-Ёрку, потым у 1962–1970 гг. – у Мюнхене, затым выданне зноў вярнулася ў Нью-Ёрк, а ад 2002 г. гэта ўжо нью-ёркска-мінскі выдавецкі праект.

**Наталля Гардзіенка**

# ІВОНКА СУРВІЛЛА: ГОД БНР



Дарагія мае суродзічы ў Беларусі і ў свеце! Віншую Вас з Новым 2018 годам і жадаю, каб гэты вялікі наш юбілей – 100-годдзе абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі – быў для ўсіх нас паспяховым і шчаслівым.

У 2017 годзе Канада святкавала свае стопяцідзясятыя ўгодкі. І як прыемна было бачыць, што не толькі ўлады, але і кожны горад, кожнае мястэчка, кожная вёска адзначалі гэты юбілей. Людзі ўдзельнічалі ў афіцыйных імпрэзах, але таксама стараліся з гэтай нагоды здзейсніць нейкія юбілейныя праекты, адсвяткаваць юбілей асабіста, кожны па-свойму.

Дык вось, звяртаюся да вас сёння з заклікам: давайце і мы, усе мы, у Беларусі і ў замежжы, адзначым наш Юбілей – сто гадоў адноўленага існавання нашай дзяржавы. Пачатак быў нялёгкі, ва ўмовах вайны на нашай зямлі між чужымі нам імперыямі, ва ўмовах дагавораў між імі, у якіх мы не бралі ўдзелу. Але нашыя продкі ўсё ж здолелі абвясціць свету, што беларускі народ жыве і жадае быць незалежным, паўнавартасным гаспадаром свае зямлі.

Дзякуючы адвазе і вытрываласці нашых продкаў, незалежнасць Беларусі была абвешчаная, прызнаная суседзямі, і нават бальшавікі не здолелі зноў зрабіць з нас расійскую губерню. Усе мы ведаем, што без БНР не было б БССР і сёння не існавала б незалежнай дзяржавы – Рэспублікі Беларусь.

Беларуская дыяспара адзначала 25 Сакавіка як найвялікшае сваё свята. Там, дзе былі святыні, адпраўлялі малебен за Беларусь, якія заўсёды завяршаліся малітвай "Магутны Божа". Дзеці чыталі вершы, выступалі са спевамі. Дарослыя з цікавасцю слухалі даклады на тэму абвяшчэння незалежнасці БНР. Рабілі іх найбольш паважаныя дзеячы эміграцыі. Часта чула словы, менавіта калі дзень 25 Сакавіка набліжаўся да Вялікадня: "Хрыстос уваскрос, уваскрэсне і наша Беларусь!". Рабілі супольныя абеды, ладзілі выставы беларускага народнага мастацтва. Усё гэта напаўняла сэрца радасцю і верай, што "дачакаемся".

У гэтыя сотыя ўгодкі БНР заклікаю кожнага з Вас, мае дарагія суродзічы, адзначыць падзеі 1918 года на нашай зямлі гэтак, як адзначаюць такія святы грамадзяне вольных краін. Або ўрачыстымі сустрэчамі, прысвечанымі БНР, канцэртамі, гутаркамі, імпрэзамі. У замежжы, дык я абсалютна ўпэўненая, што прынамсі 25 Сакавіка адсвяткуюць урачыста і з радасцю. Забудземся ў гэты дзень на тое, што яшчэ не нармальна ў нашым краі, бо верым, што дачакаемся і мы тае вольнай, беларускай Беларусі, пра якую ўсе марым.

Што да асабістых праектаў, прысвечаных стагоддзю БНР, прапаную, каб нашыя мастакі арганізавалі ў 2018 годзе выставу, прысвечаную Беларускай Народнай Рэспубліцы, каб паэты выказалі сваю любоў да Бацькаўшчыны ў сваіх юбілейных вершах, каб пісьменнікі выдалі нарысы на тэму стагоддзя. І каб дзеткі ў школах папрасілі настаўнікаў расказаць ім пра падзеі ў Менску стогадовай даўніны, пра значнасць незалежнасці для кожнага народа, пра месца БНР у нашай гісторыі. Мяне вучылі пра ўсё гэта мае бацькі. Звяртаюся да нашай дыяспары – мо і вы перадалі б сваім дзеткам пачуццё гонару звацца беларусамі, якое перадалі нашыя бацькі майму брату і мне ў далёкім замежжы?

Дык вітаю ўсіх вас, мае дарагія суродзічы, і жадаю, каб гэты юбілейны год БНР быў для вас асабліва плённым і шчаслівым!

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі,**
**Студзень 2018**

гутарка

# У Польшчы скарацілі фінансаванне праектаў беларускай меншасці, у тым ліку тыднёвіка “Ніва”

Юбілей літаб’яднання “Белавежа”, святкаванне 100-годдзя БНР беларускай меншасцю ў Польшчы пад пагрозай – няма сродкаў. Сёлета ўрад Польшчы скараціў фінансаванне беларускіх культурных праектаў.

Пра гэтую і іншыя праблемы беларускай нацыянальнай меншасці карэспандэнт Свабоды пагутарыў з Яўгенам Вапам, рэдактарам тыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва”.

## Бюджэт беластоцкай “Нівы” істотна ўрэзаны

**– Сярод культурных праектаў беларускай нацыянальнай меншасці, якія недаатрымалі фінансаванне, тыднёвік “Ніва”, які выдаецца ў Беластоку з 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Якія наступствы чакаюць вашу газету?**

– Міністэрства ўнутраных спраў прапанавала нам сёлета суму, меншую на 25 тысяч злотых за леташнюю. На першы погляд, такое змяншэнне фінансавання выглядае сімвалічным, але калі ўлічыць рост цэнаў на рынку, новыя абавязкі, звязаныя з мінімальнымі заробкамі, то гэтых сродкаў нам хопіць толькі на 10 месяцаў існавання. Супрацоўнікі “Нівы” цяпер могуць разлічваць толькі на заробак мінімальнага пражытковага мінімуму ў Польшчы, і пры гэтым выдзеленых сродкаў нават нестае на тое, каб выплаціць ім такі заробак. Хоць польскае заканадаўства строга патрабуе гэтага ў дадзеным выпадку ад выдаўца тыднёвіка. Праблема ў тым, што на працягу апошніх гадоў польская дзяржава ўвесь час імкнецца скарачаць фінансаванне на патрэбы нацыянальных меншасцяў, а ў іх патрэбы растуць. І калі, з аднаго боку нам кажуць, што ў бюджэце на ўсё нестае сродкаў, а з другога боку мы чуем, як улады дэкларуюць аб станоўчых зменах у эканоміцы і іншых галінах жыцця, то мы як грамадзяне Польшчы і як падаткаплацельшчыкі хацелі б, каб выдаткі на патрэбы нацыянальных меншасцяў таксама павялічваліся. І тут праблема заключаецца ў тым, што, нягледзячы на дыскусіі, размовы аб гэтым у самых розных інстанцыях, ніхто на самым высокім узроўні не ўзяў на сябе адказнасць вырашыць гэтыя праблемы. А нам у такой сітуацыі зноў і зноў даводзіцца пісаць лісты, хадзіць па інстанцыях, мець дачыненні з бюракратамі, каб сродкі былі давыдзеленыя. А гэта справа даволі няўдзячная.

## Няма сродкаў на праект да 100-годзьдзя БНР

**– Калі казаць пра грамадскія арганізацыі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, на якія яшчэ праекты нестае фінансавання?**

– Так, насамрэч, некаторыя праекты наагул не атрымалі фінансавання, і гэта выклікала ў мяне асабіста не проста здзіўленне, а і абурэнне. Беларускае гістарычнае таварыства не атрымала сродкаў на праект, прымеркаваны да вельмі важнай падзеі – 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Дарэчы, Польшча сёлета адзначае 100-годзьдзе аднаўлення сваёй незалежнасці. І беларускія грамадскія арганізацыі Польшчы бяруць у гэтым удзел. І мне дзіўна, што нехта не разумее, як важна для беларускай меншасці ў Польшчы трымаць сувязь з беларускай гісторыяй.

## Няма за што адзначыць юбілей “Белавежы”

– Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа” не атрымала сродкаў на правядзенне канферэнцыі да 60-годдзя свайго існавання. Не думаю, што нехта ў Польшчы не ведае пра тое, які ўнёсак зрабілі беларускія пісьменнікі ў польскую культуру, а тым самым і ў еўрапейскую. “Белавежа” – сапраўдны феномен для еўрапейскай культуры. Ніводная літаратура нацыянальных меншасцяў Польшчы не мела і не мае такой моцнай літаратурнай спадчыны. У мяне толькі застаецца надзея на тое, што нашыя паўторныя просьбы і аргументы будуць успрынятыя чыноўнікамі адпаведным чынам.

## “Праблема ў тым, што ў самой Беларусі адсутнічае беларускасць”

**– А як наагул выглядае жыццё беларускіх грамадскіх арганізацый у Польшчы?**

– Я б сказаў, што ў нас даволі багатае культурнае жыццё. Акрамя тыднёвіка “Ніва”, літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, гістарычнага таварыства, існуюць рознага кшталту калектывы, якія займаюцца этнаграфічнай спадчынай беларусаў у Польшчы, моладзевыя арганізацыі. І нас цяпер не ёсць тут настолькі шмат, каб некаму не хапіла месца браць удзел у беларускіх справах. Цешыць тое, што ёсць людзі, якія хочуць займацца беларускімі справамі. Павінен сказаць яшчэ, што ўсе нацыянальныя меншасці імкнуцца атрымаць падтрымку ад сваёй духоўнай Бацькаўшчыны, а ў нас праблема ў тым, што ў самой Беларусі адсутнічае беларускасць, і гэта той адмоўны фактар,



Яўген Вапа

які ўплывае і на нашую беларускасць.

## Беларусы Польшчы ўжо не вясковая, а гарадская нацыя

**– Беларусаў у Польшчы ўсё меней?**

– Паводле апошняга перапісу 2011 году вядома, што беларусаў у Польшчы ўсяго каля 50 тысяч. Праўда, мы лічым, што перапіс не быў аб’ектыўным і што беларусаў значна болей у Польшчы, але з тых ці іншых прычын яны падчас перапісу беларусамі не запісаліся. Вядома, нельга адмаўляць аб’ектыўнага працэсу асіміляцыі. Відавочна, як страціла свае пазіцыі беларуская вёска на Падляшшы. Вёска адмірае проста маланкава: старэйшыя людзі паміраюць, маладзейшыя з’язджаюць у горад. І сёння выглядае так, што беларусы Беласточчыны па сваім месцы пражывання ўжо не вясковая, а гарадская нацыя. Ёсць і яшчэ адзін дэмаграфічны момант, пра які мы часта забываемся. Падляшша – гэта далёка не самы багаты рэгіён Польшчы, і многія беларусы пакінулі яго ў пошуках лепшай долі і цяпер жывуць у самых розных кутках свету. Хачу толькі заначыць, што гэта зусім не выглядае, нібыта гэта наш апошні спеў: мы тут жывём, мы лічым сябе беларусамі і робім столькі, колькі можам.

## “Балюча, што Беларусь застаецца аўтарытарнай дзяржавай”

**– Ці адчувае беларуская меншасць Польшчы нейкія змены ў дачыненнях з беларускай дзяржавай?**

– Для нас самае балючае, што Беларусь застаецца аўтарытарнай дзяржавай, у самой Беларусі адсутнічае беларускасць, няма нават беларускага школьніцтва, беларуская мова не ўжываецца ні ў адной з сфер жыцця. Стаўленне да беларускасці ў Беларусі, мякка кажучы, падазронае ў беларускай дзяржавы, то што тады казаць пра нас, калі мы замежныя грамадзяне. Хаця, павінен заўважыць, што і сярод беларусаў Польшчы ёсць прыхільнікі таго, што адбываецца ў Беларусі. Тым не менш большасць з нас ставіцца крытычна да таго, што адбываецца ў Беларусі, а ў адказ беларуская дзяржава такім самым чынам ставіцца і да нас.

## “Да канца студзеня чакаем рашэння Інстытута нацыянальнай памяці пра Тарашкевіча”

**– Якое развіццё сітуацыі з пераназваннем вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім у сувязі з дэкамунізацыяй, якая праводзіцца ў Польшчы?**

– Пазіцыя ўсіх беларускіх арганізацый у Польшчы была галосна аб’яўлена. Мы выступілі і заявілі, што Тарашкевіча ні ў якім разе нельга параўноўваць з сімвалам камунізму, паколькі ён з’яўляецца ахвярай камуністычных уладаў. Ён з’яўляецца заслужанай асобай для беларускай культуры, літаратуры і гісторыі, і для нашай нацыянальнай меншасці гэта асоба знакавая. Самакіраванне горада Бельска-Падляскага таксама выказалася ў падтрымку імя Браніслава Тарашкевіча. Пакуль Інстытутам нацыянальнай памяці аб’яўлена, што рашэнне павінна быць прынята да канца студзеня. Мы з нецярплівасцю чакаем яго, паколькі для беларускай меншасці ў Польшчы гэта мае вельмі важнае значэнне.

ММ, “Радыё Свабода”

навіны

# АМАЛЬ 80 ТЫС. ІНШАЗЕМЦАЎ НАВЕДАЛІ БЕЛАРУСЬ ПА БЯЗВІЗАВЫМ РЭЖЫМЕ Ў 2017 ГОДЗЕ

Больш за 79,2 тыс. іншаземцаў прыехалі ў Беларусі па бязвізавым рэжыме з пачатку яго дзеяння і да канца 2017 года.

Часцей за ўсё беларускім бязвізавым рэжымам карысталіся грамадзяне Германіі – 12,7 тыс. чалавек, Польшчы (каля 7,6 тыс.) і Італіі (больш за 6,7 тыс.). Усяго ў 2017 годзе без віз у Беларусь уехалі грамадзяне 65 краін, сярод якіх і такія экзатычныя, як Панама, Нікарагуа, Антыгуа і Барбуда.

Указ Прэзідэнта нумар 8 "Аб устанаўленні бязвізавага парадку ўезду і выезду замежных грамадзян" пачаў дзейнічаць у Беларусі 12 лютага 2017 года. Дакументам устанаўліваецца бязвізавы парадак уезду ў Беларусь на тэрмін не большы за 5 сутак пры ўездзе праз Нацыянальны аэрапорт "Мінск". У канцы 2017 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб устанаўленні бязвізавага ўезду на тэрмін да 10 дзён для замежных наведвальнікаў Аўгустоўскага канала, Гродна і Гродзенскага раёна, турысцка-рэкрэацыйнай зоны "Брэст" (Белавежская пушча, Брэст, Брэсцкі, Жабінкаўскі, Камянецкі і Пружанскі раёны Брэсцкай вобласці, Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці).

Беларускі ўрад падрыхтаваў прапановы, накіраваныя на далейшую лібералізацыю візавага рэжыму Беларусі. Гэта, у прыватнасці, датычыцца павелічэння тэрміну знаходжання іншаземцаў пры бязвізавым уездзе праз Нацыянальны аэрапорт Мінск, а таксама іх знаходжання ў краіне без рэгістрацыі. Акрамя таго, плануецца прыняць дадатковыя меры для спрашчэння ўезду ў Беларусь на перыяд правядзення II Еўрапейскіх гульняў у 2019 годзе. У перспектыве разглядаецца магчымасць увядзення бязвізавага рэжыму ўезду ў Беларусь з неміграцыйнымі мэтамі на пэўны тэрмін праз любыя міжнародныя пункты пропуску для грамадзян шэрага дзяржаў.

БЕЛТА




# У МІНСКУ ПАЧАЛІ ПРАДАВАЦЬ "КАРТКУ ГОСЦЯ" АД 18,5 ЕЎРА

Прадпрыемства "Мінгардаведка" пачала прадаваць "Картку госця Мінска". Картка дае зніжкі на гатэлі, музеі, аквапарк і заапарк, кавярні і рэстарацыі, а таксама крамы.

Карткі маюць прадавацца ў інфапунктах "Мінгардаведкі" (такія на сайце ўстановы пазначаныя два, на чыгуначным вакзале і ў ратушы, яшчэ адзін неўзабаве абяцаюць адкрыць у Нацыянальным аэрапорце) і інфармацыйна-даведачным цэнтры "Мінск" (вул. Рэвалюцыйная, 13), а таксама праз сайт minsktourism.by.

Картка на 24 гадзіны каштуе на сайце 45 рублёў (каля 22,5 даляра або 18,5 еўра на момант публікацыі), на 48 гадзінаў – 60 рублёў, на 72 гадзіны – 78 рублёў.

"Картка госця" дае бясплатны ўваход у 11 музеяў, зніжкі да 50% на наведванне больш як 20 музеяў і экскурсій (а таксама аквапарку і заапарку), зніжкі да 20% (часцей – 5%) у гатэлях, рэстарацыях і крамах. Сам сайт мае толькі рускамоўную і англамоўную версію.

Падобныя "карткі госця" ўжо даўно прадаюцца ў гарадах суседніх краін, прапануюць не толькі зніжкі, але і бясплатныя туры або бясплатныя наведванні музеяў, некаторыя таксама ўключаюць праезд у грамадскім транспарце. Цэны на дзень розныя: так, кіеўская картка госця каштуе 15 еўра за дзень, віленская – ад 20 да 30 еўра, рыжская – 25 еўра, маскоўская – 27 еўра, варшаўская – каля 28,5 еўра за дзень.

"Радыё Свабода"

# АЛА ТУЖЫЛКІНА АБРАНА СТАРШЫНЁЙ НКА "БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ"

23 снежня 2017 года адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы". Дэлегаты абмеркавалі вынікі двух гадоў работы Рады аўтаноміі. Старшынёй НКА "Беларусы Масквы" абрана Ала Тужылкіна, начальнік аддзела Дэпартамента навукі, прамысловай палітыкі і прадпрымальніцтва горада Масквы.

Ала Анатольеўна добра вядомая маскоўцам: яна адна з ініцыятараў стварэння НКА "Беларусы Масквы", Федэральнай НКА Беларусаў Расіі, Маскоўскага жаночага клуба "Беларусачка". Ала Тужылкіна была ў складзе Кансультатыўнага Савета па справах нацыянальна-культурных аўтаномій пры Міністэрстве рэгіянальнага развіцця Расійскай Федэрацыі, у складзе Прэзідыума Савета па справах нацыянальнасцяў пры ўрадзе Масквы.

За работу па захаванні міжнацыянальнага міру і згоды ўзнагароджана Ганаровай граматай Міністэрства рэгіянальнага развіцця Расійскай Федэрацыі; за значны ўклад у развіццё міжнацыянальных адносін – Памятным знакам "За ўмацаванне міжнацыянальнай адзінства" Дзяржаўнай бюджэтнай установы Маскоўскі дом нацыянальнасцяў, за



значны ўклад у этнакультурнае развіццё і ўмацаванне адзінства народаў Расіі – Залатым медалём Асамблеі народаў Расіі. За актыўную дзейнасць па захаванні, прапагандзе і развіццю беларускай культуры, актыўную працу па развіцці інтэграцыйных сувязей Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі мае Удзячнасць Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Расійскай Федэрацыі, узнагароджана Ганаровай граматай Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

belmos.ru

# СУПОЛЦЫ "ЯЛІНКА" З МААРДУ – 15 ГАДОЎ

16 снежня 15-годдзе адзначыла беларуская суполка "Ялінка" з Маарду (Эстонія), якой кіруе Алена Калягіна. У зале гарадскога Цэнтра вольнага часу сабраліся шматлікія госці, у тым ліку беларусы-актывісты суполак "Лёс" з Таліна, "Спадкі" з Тарту, "Сябры" з Нарвы і беларуска-эстонскага згуртавання "БЭЗ" з Йыхві. Ганаровымі гасцямі на свяце былі Амбасадар Беларусі ў Эстоніі Анатоль Сцёпусь, першы сакратар Амбасады Аляксандр Татаркін, мэр горада Маарду Уладзімір Архіпаў.

У вітальным слове беларускі Амбасадар Анатоль Сцёпусь адзначыў важнасць дзейнасці суполкі, яе ролю ў гуртаванні беларускай дыяспары Эстоніі, пашырэнні беларускай культуры і перадаў удзельнікам ансамбля суполкі беларускія канцэртныя строі. Мэр Маарду Уладзімір Архіпаў адзначыў, што суполка "Ялінка" сёння – адно з самых актыўных этнааб'яднанняў горада і падарыў юбілярам камп'ютар. Кульмінацыяй свята стаў канцэрт з песнямі і танцамі, якія доўжыўся больш за дзве гадзіны. Напрыканцы гасцей запрасілі яшчэ й на "Беларускую вечарыну". Там усе спявалі, танцавалі і частаваліся беларускімі стравамі.

Віктар Байкачоў, намеснік старшыні беларускай суполкі Сябры", г. Нарва, Эстонія

**гісторыя**

# ПОЛІ АДЛЕР – МАДАМ З ЯНАВА

Уладальніца самага вядомага бардэля ў Амерыцы паходзіла з беларускага Янава.

Усё ж народжаныя ў Беларусі людзі – кніжны народ. Ці прафсаюзны дзеяч, ці філосаф, а нават хоць і таемны супрацоўнік спецслужбаў – кожнаму з іх было важна пакінуць па сабе кнігу – аўтабіяграфію ці там які ўспамін. Вось і гэтая кніга – "Хата – не дом" (у арыгінале "A house is not a home") – таксама напісаная чалавекам, для якога Беларусь была калыскаю, домам-бацькаўшчынаю…

Напэўна, не кожным супляменнікам варта ганарыцца, але і забывацца на іх ніяк не выпадае. Тым больш што гэтым разам гаворка пойдзе пра кабету, а іх роля у гісторыі – і не толькі эміграцыйнай – застаецца ў цені мужчынскіх учынкаў. Нават калі ўчынкі тыя даволі неадназначныя з маральнага пункту гледжання, як, прыкладам, забойства бомбаю расійскага імператара адным нашым славутым земляком.

У амерыканскай літаратуры і ў сеціве краінаю нараджэння нашай гераіні называецца калі Расія, калі Польшча, хоць у сваёй кнізе аўтарка піша даволі недвухсэнсоўна, у адпаведнасці з тагачаснай тэрміналогіяй, пра месца, дзе пабачыла свет: White Russia. Адбылося тое 16 красавіка 1900 года ў Янаве (сёння Іванава Брэсцкай вобласці).

Паводле янаўскіх стандартаў сям'я жыла няблага: вялікі дом, напоўнены паветрам і святлом, немалы сад з кветкамі і садавіною, хлеў з конямі і каровамі. Бацька Ізідар, кравец, быў чалавекам эмацыйным, з буйнымі ідэямі і аніяк не меншаю думкаю пра сябе самога. Месца жонкі ён бачыў выключна на кухні або з дзецьмі, і Сара, матка нашае гераіні, жыла менавіта паміж гэтымі двума пакоямі. Дзяўчына… але мы ўсё яшчэ не назвалі яе імені, дык вось – Перл была старэйшаю ў сям'і; пасля яе Бог падараваў бацькам яшчэ адну дзяўчынку і аж сем хлапчукоў.



У аўтабіяграфіі "Хата – не дом", выдадзенай у 1953 годзе пад імем Полі Адлер, пра бацьку гаворыцца з усмешкаю Мэндэле-кніганошы. У сваю першую адысею ён скіраваўся, калі дачцэ быў толькі год, – у Амерыку, якую янаўцы называлі Goldine Medina – залатая зямля. І хоць прабыў там усяго некалькі месяцаў, гэтага хапіла, каб вярнуцца назад спецыялістам ва ўсім, датычным гэтае краіны. Цягам наступных гадоў ён адведаў таксама Варшаву, Берлін і зноў ЗША – і стаўся аўтарытэтам абсалютна ва ўсім. Гэтыя падарожжы не прынеслі ні золата, ні грошай, затое давалі дастаткова матэрыялу для бясконцых аповедаў-травелогаў – і паколькі рэдка хто з местачкоўцаў бываў нават у Пінску, бацька заўсёды меў удзячную аўдыторыю…

**Лявон Юрэвіч, Наталля Гардзіенка, "Будзьма беларусамі!"**

**Працяг артыкула чытайце на zbsb.org**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўдзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці**

# МОРЫС КОЭН: АМЕРЫКАНСКІ ФІЛОСАФ З МІНСКА І НЯСВІЖА

У амерыканскай гісторыі вядомыя два Морысы Коэны. Першы – народжаны ў Нью-Ёрку ў сям'і ўцекачоў з царскай Расіі (бацька з-пад Кіева, маці з Вільні) Морыс (Генрыхавіч) Коэн, памерлы ў Маскве савецкі шпіён, Герой Расійскай Федэрацыі (1910–1995).

Другі Морыс Коэн прарабіў адваротны шлях: нарадзіўся ў Мінску, а пахаваны ў Нью-Ёрку. Паводле слоў Бертрана Расэла, гэта найбольш значны філосаф Амерыкі. Прынамсі, лічыўся такім да сваёй смерці, што забрала яго ў 1947 годзе. А ў 1949-м выйшла з друку кніга *"A dreamer's journey: The autobiography of Morris Raphael Cohen"* ("Шлях летуценніка: аўтабіяграфія Морыса Рафаэля Коэна"), і сталі вядомыя некаторыя неэнцыклапедычныя факты з жыцця нашага земляка.

Бацька Мэйшэле (так на ідыш гучала ягонае імя) Аўраам нарадзіўся ў Клецку, маці – у суседнім Нясвіжы. Калі яны ў 1867 годзе пабраліся шлюбам, бацька пераехаў у дом матчыных бацькоў, у прымы: па традыцыі тыя меліся цягам аднаго года ўтрымліваць маладых, каб даць ім час стаць на ногі. Але ўжо праз некалькі тыдняў дзед усвядоміў, што не агорае пракарміць усіх, і Аўраам Коэн пачаў спрабаваць сябе ў гандлі, толькі няўдала. Затое ягоная маладая жонка знайшла сабе працу швачкі ў мястэчку Мір, куды яны ўсе і перабраліся. А неўзабаве туды пачалі даходзіць чуткі з Мінска, што ў горадзе патрабуюцца цесляры, і было вырашана паспрабаваць шукаць удачы там.

Аўраам выправіўся адзін, не маючы ні капейкі ў кішэні, нікога не ведаючы ў горадзе. Дайшоўшы да места, ён проста скіраваўся да цэнтра, без аніякай ідэі, куды ідзе. Нарэшце, знясілены, нічога не еўшы за ўсё падарожжа, апусціўся проста на прыдарожны камень. Праз нейкі час да яго падышоў мінак і пацікавіўся, чаго той сядзіць проста на вуліцы. Яны разгаварыліся, і незнаёмец запрасіў Аўраама да сябе на абед. Пазней высветлілася, што новага знаёмца клічуць Элая, і ён ачольвае невялічкі хаўрус цесляроў. Так, займеўшы працу, Аўраам неўзабаве выдаткаваў дастаткова грошаў, каб перавезці сям'ю ў Менск, дзе 25 ліпеня 1880 года і нарадзіўся Мэйшэле – Морыс Коэн.

Дзяцінства, апісанае ім ў аўтабіяграфіі "Вандроўка летуценніка", вельмі нагадвае маленства Змітрака Бядулі з "У дрымучых лясах":

*"Яна заве мяне не па імені, а "нядоляй":*

*– Нядоля мая, ідзі есці!*

*– Нядоля мая, ідзі спаць!*

*– Нядоля мая, не хадзі да рэчкі!*

*Я прывык да гэтага слова і зусім спакойна на яго адклікаюся".*

Коэн згадвае, што ён таксама быў вельмі хваравітым хлопчыкам і ў сваім спісе меў усе дзіцячыя хваробы таго часу, часам на мяжы з смерцю. І ў яго была свая мянушка: *kalyeleh* – недарэка, якую ён успрымаў ужо як уласнае імя і ахвотна адгукаўся, калі яго так клікалі. І толькі маці не стамлялася паўтараць: *"Чакайце, прыйдзе час, і ўсе яшчэ будуць ганарыцца, што калісьці размаўлялі з маім Мэйшэле!"*

Набраўшы гадкоў, хлопчык пайшоў у хедар. І зноў ягоныя ўспаміны – рыхтык згадкі Бядулі: *"У цесным пакоі пры адным стале сядзела каля дзесяці хлопчыкаў. Сядзелі мы не выходзячы па дванаццаць гадзін. З дому нам прыносілі есці. Дзень быў падзелены на чытанне малітваў, Біблії і Талмуда. Прыблізна гадзіна часу аддавалася на чыстапісанне па-старагабрэйску і на вывучэнне першых чатырох правіл арыфметыкі. Вольнымі ад хедара мы бывалі паўдня ў пятніцу і паўдня ў суботу. Два разы на год вучні хедара мелі канікулы – месяц вясною і месяц увосень. Усе дзесяць вучняў маліліся і чыталі разам уголас. У хедары стаяў незвычайны шум, нібы гуло некалькі раёў пчол".*

На той час ягоны бацька з'ехаў на заробкі ў Амерыку – спачатку сам, а вярнуўшыся ў 1887 годзе нібы застацца, праз два тыдні паехаў наноў, узяўшы з сабой двух старэйшых сыноў. З маці засталіся толькі Мэйшэле і маленькая сястра, так што абараніць *kalyeleh* на двары або ў хедары не было каму. І невядома, як хутка зламаўся б маленькі Мэйшэле, ці не стаўся б усяго толькі чарговым местачковым *шлімазл*, *кунэлэмл*, персанажам з твораў Мэндэле Мойхера-Сфорыма, калі б у ягоным лёсе, як, дарэчы, і ў Бядулевым, не адыграў сваю ролю дзед. Дзед з Нясвіжа.

Аповед Коэна пра Нясвіж – выдатны матэрыял да гісторыі беларускіх мястэчак:

*"Любы чалавек, прызвычаены да амерыканскага ўзроўню жыцця, які трапіў бы ў Нясвіж у той час (1887–1890 гг.) і прайшоўся па яго нebрукаваных і неасветленых вуліцах, зазірнуў у маленькія, неправетраныя і часцяком перапоўненыя драўляныя хацінкі без водаправодаў, якія не змаглі б засцерагчы ад заразных хваробаў эпідэмічнага характару, сказаў бы, што мястэчка гэтае неймаверна беднае, бруднае, злачынна недасведчанае ў плане гігіены і ў цэлым быццам нежывое. Сапраўды, ён бы задаўся пытаннем, як увогуле 6–8 тысяч жыхароў гэтага мястэчка могуць тут жыць. Магчыма, вонкава ўсё здаецца менавіта такім, але ёсць яшчэ і ўнутранае жыццё і рэлігійная адданасць, якія надаюць высакароднасці радасцям і смуткам яго жыхароў, забяспечваюць іх сіламі і годнасцю, неабходнымі для выканання паўсядзённай працы і змагання з цяжкасцямі жыцця…"*

**Лявон Юрэвіч, Наталля Гардзіенка, "Будзьма беларусамі!"**

**Працяг артыкула чытайце на zbsb.org**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўдзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці**

**in memoriam**

## ПАМЕРЛА ЛЁЛЯ КАСОЎСКАЯ

Лёля (Алена) Касоўская памерла ў пятніцу, 2 лютага, у Трэнтане, на 85-м годзе жыцця.



Яна нарадзілася 27 верасня 1933 г. у сям'і беларускага святара Мікалая Лапіцкага, што скончыў Варшаўскі ўніверсітэт. Бацька спачатку служыў у Ашмянах, потым у Стэфанпалі на Дзісеншчыне, затым у Менску.

Улетку 1944 г. Лапіцкія былі вымушаныя эміграваць. Шанцаў выжыць святару пад савецкай уладай не было зусім. У 1943-м Лапіцкага арыштавалі немцы, некалькі дзён пратрымалі ў турме і адпусцілі. У другой палове 1940-х сям'я жыла ў беларускіх лагерах у Рэгенсбургу і Міхельсдорфе (Баварыя). Мікалай Лапіцкі заснаваў беларускі прыход св. Еўфрасінні Полацкай, нейкі час быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе. У 1950 г. яны перабраліся ў ЗША.

Напачатку пасяліліся ў Пасэйку (Нью-Джэрсі). Мікалай Лапіцкі працаваў на заводзе па выпуску тэлевізараў, але арганізаваў прыход у Саўт-Рыверы і штовыходныя, у вольны час, ездзіў служыць у новастворануюцаркву.

Выйшла замуж за Лявона Касоўскага, скончыла хімічны факультэт Ратгерскага ўніверсітэта, затым вывучылася на бібліятэкара, выгадавала двое дзяцей. Брала актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці.

Найбольшы дарробак Лёлі Касоўскай — спонсарства беларускіх праектаў: яна давала грошы на выданне кніг, часопісаў, дабрачынныя мэты.

Была адным з тых, хто спрычыніўся да стварэння беларускай калекцыі ў бібліятэцы Ратгерскага ўніверсітэта. Перадала туды архівы Мікалая Лапіцкага, Івана Касяка. Але яна заўсёды моцна ганарылася, што бацька пабудаваў царкву ў Саўт-Рыверы.

Апошнія гады сп. Лёля моцна хварэла і ездзіла ў вазку, яе глядзела жанчына з Беларусі. Але старалася хоць раз на некалькі месяцаў выбрацца ў царкву.

**Паводле АГ, "Наша Ніва"**

## ПАМЕРЛА ПАЎЛІНА ПАШКЕВІЧ-СМІТ

На 85-м годзе памерла супрацоўніца Канадскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі Паўліна Пашкевіч-Сміт. Пра гэта паведаміла старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

"З вялікім сумам даведалася, што адышла ў лепшы свет мая сяброўка Паўліна Пашкевіч-Сміт, – піша Івонка Сурвілла на сайце Рады БНР. – Нарадзілася яна ў Канадзе ў сям'і беларускіх баптыстаў са Століншчыны, бацькі эміравалі на пачатку 1930-х. Пазнаёміліся мы, калі пераехалі ў правінцыю Квэбэк, дзе яна брала актыўны ўдзел у галіне школьніцтва. А як закладалі Канадскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі і былі патрэбны тры подпісы людзей, якія не мелі сямейных сувязяў між сабой, Паўліна стала адной з тых падпісантак – разам з Зінай Гімпілевіч і мной. Паўліна зрабіла велізарны ўнёсак у дзейнасць нашага фонду. Шмат гадоў усё лета ў яе жылі перакладчыкі, якія прыязджалі з беларускімі дзецьмі ў Канаду. Уваходзіла ва ўправу і



выконвала розныя функцыі ў гэтай якасці".

Паводле яе, да апошніх гадоў Паўліна Пашкевіч-Сміт марыла адведаць зямлю сваіх продкаў, але так і не паспела.

**Паводле "Радыё Свабода"**

## ПАМЁР СІЛЬВЕСТР БУДКЕВІЧ

Управа Згуртавання Беларусаў у Вялікабрытаніі са смуткам паведамляе аб адыходзе 12 студзеня 2018 года сп. Сільвестра Будкевіча.



Сп. Сільвестр Будкевіч, які далучыўшыся да нашай арганізацыі ў кастрычніку 1946 года, быў аднім з найстарэйшых сяброў ЗБВБ.

Нарадзіўся сп. Будкевіч 4 сакавіка 1924 года на Навагрудчыне, у сям'і праваслаўнага вызнання. У 1942 г. быў прыняты на навучанне ў Навагрудскую настаўніцкую семінарыю, быў сябрам СБМ. У 1944 быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. З фармаванняў, створаных немцамі з вайскоўцаў БКА, ён перайшоў на бок партызанаў французскага Рэзістансу, з прыходам заходніх аліянтаў далучаны да ІІ Корпусу польскай арміі ген. Андэрса пад брытанскай камандаю ў Італіі, у складзе якога прайшоў да часу перамогі над нацысцкай Нямеччынай. Браў удзел у беларускіх нефармальных суполках яшчэ падчас службы ў ІІ Корпусе. Разам з многімі іншымі беларусамі ў 1946 годзе патрапіў у Вялікабрытанію ў складзе "Polish Resettlement Corps", пасяліўся ў г. Ковентры, скончыў тэхнічную школу. Быў старшынём аддзелу ЗБВБ ў Ковентры ад заснавання яго ў кастрычніку 1947 г., у траўні 1948 стаў старшынём Акруговага аддела ЗБВБ ў Ковентры. Сп. Будкевіч меў жонку ірландскага паходжання і ўрэшце далучыўся да грамады беларускіх грэка-католікаў Вялікабрытаніі. Напрацягу ўсяго часу сяброўства ў ЗБВБ – працяглacцю болей 71 года – спадар Будкевіч заставаўся, пакуль дазваляла здароўе, нязменна актыўным удзельнікам справаў арганізацыі, да канца цікавіўся беларускімі справамі, таксама быў сябрам рады Беларускага Харытатыўнага Фонду, ахвярадаўцам у падтрымку найважнейшых імпрэзаў Англа-Беларускага Таварыства.

Спадар Сільвестр Будкевіч быў пахаваны 1 лютага ў Ковентры, Canley Garden Cemetery.

Вечная памяць нашаму вернаму сябру і адданаму беларусу.

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2018 года

2 лютага – 180 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

2 лютага – 35 гадоў таму, у 1983-м, памёр Мікола Прашковіч, літаратуразнавец.

4 лютага – 210 гадоў таму, у 1808-м, нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, паэт, драматург, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.

4 лютага – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Аркадзь Куляшоў, паэт.

7 лютага – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Рыгор Рак, краязнавец.

8 лютага – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Антон Неманцэвіч, царкоўны дзеяч.

8 лютага – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Мікалай Гуткоўскі, юрыст.

10 лютага – 150 гадоў таму, у 1868-м, нарадзіўся Карусь Каганец (сапр. Казімір Кастравіцкі), пісьменнік, мастак, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху.

10 лютага – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Станіслаў Булак-Балаховіч, кіраўнік паўстання супраць савецкай улады.

10 лютага – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Максім Гарэцкі, пісьменнік, фалькларыст, лексікограф.

11 лютага — 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Язэп Белагаловы, святар.

13 лютага – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Серафім Татарын, грамадска-культурны дзеяч, актывіст Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і Таварыства Беларускай школы.

15 лютага – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Станіслаў Сангін, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

15 лютага – 60 гадоў таму, у 1958-м, памёр Язэп Рэшаць, рэлігійны дзеяч.

16 лютага – 260 гадоў таму, у 1758-м, нарадзіўся Юльян Нямцэвіч, пісьменнік, гісторык, удзельнік паўстання 1794 г.

18 лютага – 75 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Максім Гарэцкі, пісьменнік, фалькларыст, лексікограф.

19 лютага – 110 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, паэт, празаік.

20 лютага – 30 гадоў таму, у 1988-м, памёр Павел Каруза, грамадска-палітычны дзеяч, кампазітар.

21 лютага – 100 гадоў таму, у 1918-м, абвешчана Першая ўстаўная грамата Беларускай Народнай Рэспубліцы і створаны першы беларускі ўрад – Беларускі Народны Сакратарыят.

22 лютага – 100 гадоў таму, у 1918-м, памерла Соф'я Кавалеўская, этнограф, пісьменніца.

23 лютага – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Вінцэнт Жук-Грышкевіч, гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1970–1982 гг.

27 лютага – 130 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Яфім Бялевіч, дзеяч нацыянальнага руху.

28 лютага – 105 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Аляксей Шудзейка, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**Беларусы ў свеце**
No 1 (188), студзень 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27